Народная Воля
http://www.nv-online.info
2 ЛЮТАГА 2016 г.

СТОП-КАДР

# Ах, які быў баль!..

*У мінулую нядзелю ў Мінскім палацы дзяцей і моладзі прайшоў баль праваслаўнай моладзі.*



Урачыстасць сабрала пары ўсіх узростаў, танчылі нават дзеці.

Баль складаўся з трох танцавальных аддзяленняў: спачатку пад музыку аркестра «Няміга» пары танчылі вальсы, танга, квікстэп і блюз, затым пад акампанемент фальклорна-этнаграфічнага ансамбля «Неруш» былі народныя танцы, і ў фінале – танцы народаў свету.

Баль прайшоў па благаславенні Мітрапаліта Мінскага і Заслаўскага Паўла, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі.

**Аліна ВЕТРАВА.**
**Фота з сайта sobor.by.**

СКАНДАЛ

# За што дыскваліфікавалі беларускую марафонку?

*Беларускую бягуху **Аляксандру Дуліба** дыскваліфікавалі на два гады.*

Такое рашэнне прыняла Міжнародная федэрацыя лёгкай атлетыкі. Афіцыйная фармулёўка наступная – “па абнармальных паказаннях гематалагічнага профілю біялагічнага пашпарта”. Ізноў удзельнічаць у спаборніцтвах лёгкаатлетка зможа не раней за верасень 2017 года.



Аляксандра Дуліба вядомая сваімі выступленнямі на марафонскіх дыстанцыях. У сакавіку 2013 года яна выйграла марафон у Лос-Анджэлесе з рэкордам Беларусі, а праз паўгода ў Чыкага нават палепшыла свой вынік.

У апошнія гады спартсменка жыве і трэніруецца ва Украіне. Неяк яна заявіла, што мае намер змяніць грамадзянства і на Алімпіядзе ў Рыа-дэ-Жанейра прадстаўляць Украіну.

*“У Кіеве трэніруюся пад кіраўніцтвам цудоўнага спецыяліста Ігара Мікалаевіча Осьмака,* – распавядала раней спартсменка “Народнай Волі”. – *Мне патрэбны быў прафесійны трэнер, і я яго знайшла. Не проста было патрапіць у групу, але ўсё атрымалася. Праўда, давялося пераехаць у сталіцу Украіны Кіеў, дзе зараз і жыву. Не будзеш жа па скайпе слухаць трэнерскія парады. У Беларусь, на жаль, прыязджаю вельмі рэдка, можа быць, раз у паўгода... Марафон для мяне – не толькі работа, але і лад жыцця”.*

Што стаіць за незразумелай для многіх фармулёўкай *“дыскваліфікацыя па абнармальных паказаннях гематалагічнага профілю біялагічнага пашпарта”?*

– Ёсць такая форма допінгавага кантролю, як біялагічны пашпарт, – патлумачыў спецыяліст у вобласці антыдопінгавага заканадаўства, які папрасіў не называць яго прозвішча. – Гэта прадугледжвае рэгулярны (на працягу года) адбор проб крыві, для таго каб пабудаваць хімічную структуру крыві спартсмена. Калі ў гэтай структуры пасля чарговай допінг-праверкі знаходзяць нейкія змяненні, то даследуецца факт, чым гэта можа быць выклікана. І ўжо на гэтай падставе робіцца выснова, ці прымяняў спартсмен забаронены прэпарат. А можа быць, нават і лекі, у склад якіх уваходзілі забароненыя прэпараты.

**– Напэўна, складана адсочваць увесь спіс таго, што нельга прымаць?**

– Складана, але магчыма. Для гэтага ў зборных камандах і працуюць урачы. У некаторых выпадках за інфармацыяй можна звярнуцца і ў Нацыянальнае антыдопінгавае агенцтва. Спіс забароненых прэпаратаў штогод абнаўляецца Сусветным антыдопінгавым агенцтвам, таму на самай справе неабходна ўсё адсочваць, каб затым не трапіць, як кажуць, у няёмкае становішча.

**– Дыскваліфікацыя па такіх паказчыках – рэдкасць альбо не?**

– У апошні час пачасціліся выпадкі выяўлення допінг-парушальнікаў з дапамогай біялагічных пашпартоў, бо ўдасканальваюцца методыкі лабараторый. Дарэчы, наколькі мне вядома, пашпарт Аляксандры Дуліба вёўся на працягу паўтара года.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

НОВЫЕ ИМЕНА



# С надеждой на Веру

*17-летняя белорусская теннисистка Вера Лапко выиграла юниорский открытый чемпионат Австралии.*



В прошлом году белоруска тоже достигла неплохих результатов: на юниорском Уимблдоне она вышла в полуфинал одиночного разряда и в финал парного.

Одним словом, есть все основания считать, что Вера Лапко может стать новой звездой мирового тенниса. Что мы о ней знаем?

## В теннис – из фигурного катания

С четырех лет Вера занималась фигурным катанием. Но, как призналась спортсменка, где-то через полтора года ее… выгнали из секции из-за высокого роста. Мол, *«динамика прослеживалась такая, что разница со сверстниками угрожала стать слишком большой»*. Пришлось сменить вид спорта.

До 12 лет Вера Лапко жила в Минске в Автозаводском районе, поэтому начала заниматься теннисом на известных мазовских кортах. Именно там делал первые шаги в теннисе и Максим Мирный.

*«Уже плохо помню первые тренировки, но почему-то свежи воспоминания, как занимались зимой,* – вспоминала потом теннисистка. – *И невозможно забыть первого тренера – уж очень строгая была женщина. Район у нас необычный. Рядом жили интересные люди, со своими изюминками. А по улицам ходить не боялась, я же росла самостоятельной, в садик сама ходила. Но мама, конечно, волновалась».*

## Как в Англии поужинала вместе с Сереной Уильямс и Новаком Джоковичем

До Уимблдона-2015 Вера Лапко играла на турнирах в Египте и там добилась неплохих результатов. После этого на четырех соревнованиях подряд уступала в первом же круге. Спортсменка рассказывала, что она не сдавалась и настраивала себя только на позитив.

В итоге – отличный результат на престижном Уимблдонском турнире, который закончился чемпионской вечеринкой.

*«О, это непередаваемо!* – восхищалась Вера. – *Нас так здорово разместили – за третьим столом. За первым сидели Серена Уильямс и Новак Джокович, а всего столов было около пятидесяти. Огромный зал, красивое оформление, фиолетовая подсветка... Представляли по очереди всех победителей и обладателей вторых мест. Ты поднимаешься на сцену, на тебя смотрят первые ракетки мира, аплодируют... Невероятно! А накануне нам выдавали платья для чемпионского ужина, делали макияж, прическу, и рядом ходила Мартина Хингис, настраивалась на финальный матч в миксте. Приблизилась ко мне и говорит: «Ты такая красивая!» Я обалдела! Мы пару минут поговорили, я поздравила ее с победой в паре, пожелала удачи. Она очень приятная, общительная, часто уделяет внимание юниорам, ведь сама такая была. В мои годы она уже турниры «Большого шлема» выигрывала».*

## Спонсор спортсменки – Банк развития

Вера Лапко не скрывает, кто ее «финансовый друг», – это Банк развития, который возглавляет председатель Белорусской федерации футбола Сергей Румас. Он, кстати, иногда приезжает на турниры, в которых участвует Вера.

*«Я рекламирую банк, прикрепляю логотип на свою форму,* – сообщила теннисистка. – *Они оплачивают буквально все: перелеты и проживание мне и тренеру, суточные, непредвиденные расходы. Главное – подшить все чеки. Благодарна за такую поддержку».*

Кстати, наверное, мало кто знает, что юниорский теннис не оплачивается.

*«У мамы на работе подумали, что я за полуфинал Уимблдона получила какие-то немыслимые миллионы!* – усмехается спортсменка. – *Я не думала о деньгах. Конечно, приятно было бы что-то получить, ведь на 10- и 15-тысячных турнирах радуешься даже 500 долларам! Но мне не жалко, что не платят. Пока о деньгах не думаешь, играть легче, ведь финансовые и бытовые моменты не обременяют. Сейчас я настроена, чтобы работать и получать удовольствие от игры, а потом уже буду заботиться о заработках».*

## Не сыграет с Сереной Уильямс?

*“Хочется верить: когда я начну играть во взрослом туре, Серена Уильямс уже уйдет,* – рассказывает о своих чаяниях Вера. – *Сказать по правде, все юниорки на это рассчитывают. Когда Уильямс выиграла Уимблдон, мы смотрели и комментировали: «Нормально, когда придет наша пора, она уже закончит». Но я не удивлюсь, если Серена продолжит играть лет до 45».*

Переходить во взрослый теннис спортсменка не торопится, хотя и медлить нельзя.

*«Живу настоящим,* – отмечает она. – *Позже будет другой план выступления. Больше чем уверена, что в профессионалах будет круто. Но и сложно тоже – там все настроены на то, чтобы зарабатывать деньги. А мои мозги пока устроены по-другому».*

## Любовь к сериалам и книгам

О своих увлечениях вне корта Вера Лапко рассказывает так: *«Сериалы смотрю. Люблю “Сплетницу”, там события происходят в моем любимом Нью-Йорке. Побывала в этом городе в прошлом году и влюбилась. Шоу “Камеди клаб” нравится. А с недавних пор стала модератором сайта, на котором решают домашние задания. По большому счету за бонусные баллы делаю чужую “домашку”, чищу спам в комментариях. Интересно. Книги покупаю стопками, читаю сразу несколько. “Дневник Бриджит Джонс”, “Мастер и Маргарита”…*

Алла ЗНАК, завуч минской гимназии №40 :

## «Может, из нашей ученицы вторая Азаренко вырастет?..»

*Теннисистка учится в 11-м классе столичной гимназии №40. Заместитель директора гимназии по воспитательной работе Алла ЗНАК рассказала «Народной Воле» о звездной ученице:*

– Мы знаем об успехах Веры, всегда болеем за нее. Довольно старательная девочка, учится на 7–9, хотя понятно, что разъезды, тренировки и соревнования тяжело совмещать с учебой.

**– Преподаватели идут навстречу в случае чего?**

– Естественно, мы же понимаем, какой путь для себя человек избрал в этой жизни. Она же не просто прогуливает занятия, а работает. И, повторюсь, в учебе она – не последняя.

**– Как в гимназии относятся к «звездочке»?**

– Ребята и учителя очень сильно переживают, когда она выступает. Была у нас даже презентация о Вере Лапко, рассказываем школьникам о ее заслугах. Есть же с кого пример брать. Может быть, Вера даже станет второй Азаренко.

**– Кроме тенниса у девушки есть еще таланты?**

– В феврале у нас будет проходить конкурс патриотической песни, так что, возможно, и Вера поучаствует, если у нее будет время и желание.

**Алесь СИВЫЙ.**

ШАШКІ

# Творчасць чытачоў

Нашы чытачы даслалі свае творы для публікацыі ў нашай рубрыцы “Шашкі”.

Знаёмім з некаторымі з іх.

Заданні для чарговага бліц-конкурсу прапанаваў магілёўскі майстар **Дзмітрый Камчыцкі**. Ва ўсіх заданнях белыя пачынаюць і выйграюць. Пераможцу чакае прыз ад аўтара.



№1 **Белыя**: b4, c5, c7, d4, e1, f6, g7 (7).
**Чорныя**: a5, b2, b8, c3, d2, e5, h2, h4 (8).

№2 **Белыя**: a5, b6, e5, f4, f6, g5 (6).
**Чорныя**: a7, b8, d2, d8, e3, e7, f2, h4, h6 (9).

№3 **Белыя**: b2, c7, d4, d6, h4 (5).
**Чорныя**: c3, d2, d8, f2, g7, h6 (6).

№4 **Белыя**: b6, c7, d4, e5 (4).
**Чорныя**: a7, b2, c3, f4, g3, g5, g7 (7).

№5 **Белыя**: b4, c5, c7, d6, e5, f6 (6).
**Чорныя**: a5, a7, b2, e3, f4, g3 (5).

## Падводзім вынікі бліц-конкурсу ад 8 снежня 2015 года. Супаставім рашэнні:

**№1** – g7(h8), d8, f2, b6, b8, c3, a3 x.
**№2** – e5, b4, c7, h2, f4 x.
**№3** – c7(b6), c7(выйграе і e3 x), e7(выйграе і g5)(d6), g5(e5), e7, b8 x.
**№4** – ef4(e3), b6, g5, b4, c3, a1, e3(f6, f6), f4 x.
**№5** – dc3, e3, c3, cb4, d8(a5, c7), b4(d6), c5, b2 x.

Як паведаміў А.Панчанка, такую ж пазіцыю ў 1997 годзе на 9-ы чэмпіянат Віцебскай вобласці даслаў Л.Левес.

Свае адказы звычайнай і электроннай поштай на адрас рэдакцыі і на адрас вядучага рубрыкі першымі даслалі: **Анатоль Панчанка** (Днепрапятроўск, Украіна), **Уладзімір Рычка** (Глобіна Палтаўскай вобл., Украіна), **Мікалай Зайцаў** (Баранавічы), **Леанід Жыхар** (Мядзель), **Аляксандр Шурпін** (Івянец), **Дзмітрый Камчыцкі** (Магілёў), **Віталь Варушыла**, **Іван Наўроцкі** (Мінск). Найбольш удалымі былі адказы **Аляксандра Шурпіна**. Ён і стаў пераможцам гэтага бліц-конкурсу. Яго чакае прыз – кніга пра шашкі.

# Маэстра з Літвы

На гэты раз наш госць – літоўскі маэстра шашачнай кампазіцыі **Рымас Мацкявічус**.

Ён прапануе свае эцюды ў рускіх шашках. Ва ўсіх пазіцыях выйгрыш белых.



№6 **Белыя**: c7, d6; дамка b8 (3).
**Чорныя**: a3, a5, d4, h8 (4).
d8(b4), b6(dc3**A**), d4, e5 x **A**(b2), e3/g1(a1), d4, a3 x.

№7 **Белыя**: e3; дамкі b8, f4 (3).
**Чорныя**: a3, b4, e7, f6, g7 (5).
h6(g5**A**), c5, h6, g7 x **A**(e5), hh2(b2), bf4(a1**B**), d4, a3 x **B**(c3), d4, a1 x.

№8 **Белыя**: дамкі g1, g3 (2).
**Чорныя**: b4, d6, e5, g5, g7 (5).
e1(h4**AB**), a5(g3), e1(h2), b4(d4), bh6(c3), c1 x **A**(a3), d4, c1 x **B**(c5), a7(a3), b4 x.

№9 **Белыя**: дамкі a7, e1 (2).
**Чорныя**: a5, b6, c5, e5, e7 (5).
h4(f4**AB**), d8(g3), c7, h4(b4), e1(a3), c3 x.
**A**(d6), g5(ab4), d8(a3), a5(f4), h6(b2), c3, f8(e5), g7 x **B**(d4), d8(c3), c7 x.

№10 **Белыя**: g7; дамка a7 (2).
**Чорныя**: b4, d6, e5, g5, h6 (5).
f8(c5**AB**), h4(a3), d6(b2), e5 x **A**(a3), b4, h4 x **B**(d4), fg1(c3), h2(b2), d4 x.

# «Белы» фінал

Мінскі майстар **Іван Наўроцкі** паспяхова працуе як на малой, так і на 100-клетачнай дошцы. Знаёмцеся з яго новымі творамі ў міжнародных шашках. Характэрная прыкмета праблем, якія аўтар прапануе зараз, – фінал, у якім на полі застаецца толькі адна шашка або дамка белых, што з’яўляецца высокім паказчыкам для кампазіцыі.

№11 **Белыя**: 17, 19, 30, 34, 35, 39, 40, 43, 48 (9).
**Чорныя**: 2, 8, 13, 15, 20, 24, 28, 32, 37, 45 (10).
33, 12, 8, 8, 24, 3, 20, 38, 19 x.

№12 **Белыя**: 19, 20, 21, 32, 38, 42, 47, 50 (8).
**Чорныя**: 10, 16, 22, 27, 29, 31, 33, 40, 45 (9).
17, 21, 44, 20–14, 5, 40, 37, 40 x .

№13 **Белыя**: 15, 16, 20, 27, 28, 31, 32, 38, 42, 43 (10).
**Чорныя**: 7, 9, 13, 17, 19, 21, 24, 29, 36, 40 (10).
23, 11, 2, 34, 14, 35 x

№14 **Белыя**: 19, 27, 31, 34, 37, 39, 41, 42, 47, 48 (10).
**Чорныя**: 7, 8, 10, 14, 17, 18, 20, 22, 26, 28, 36 (11).
33, 43, 32, 42, 5, 36 x.

№15 **Белыя**: 13, 16, 18, 20, 27, 28, 31, 35, 45, 49, 50 (11).
**Чорныя**: 7, 10, 11, 15, 24, 29, 36, 38, 41, 42 (10).
20, 12, 7, 23, 43, 1, 13, 38(43), 40, 48 x.

**Свае лісты дасылайце на адрас: 220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а, “Шашкі”, або на электронны адрас рэдакцыі: saf20016@yandex.ru, shulga.checkers@gmail.com.**

**Віктар ШУЛЬГА,**
**міжнародны майстар спорту па шашачнай кампазіцыі.**

ПРОЩАЛЬНОЕ СЛОВО

# Он был талантливым конструктором, благородным Человеком

29 января на 81 году жизни ушел от нас известный белорусский конструктор, бывший первый вице-президент – технический директор ОАО «Амкодор» **Виктор Николаевич Балакло.** Умный, добрый, благородный и очень талантливый человек.

Это его конструкторским талантом был создан целый шлейф машин, большинство из которых до сих пор выпускает и которыми по праву гордится «Амкодор»: погрузчики, дорожные катки, экскаваторы, снегоуборочные машины, бурильные установки, холодные фрезы, краны, асфальтоукладчики, машины для коммунального и лесного хозяйства.



Разработанную под его руководством строительно-дорожную технику (машины желтого цвета) мы постоянно видим на наших дорогах, улицах и строительных площадках. Всю свою жизнь он посвятил одному предприятию – «Амкодору». Это был его второй дом, где его любили и уважали не по должности, а по делам, доброте и отзывчивости. Виктор Николаевич воспитал целую плеяду блестящих конструкторов, которые составляют и поныне гордость белорусского инженерного корпуса.

Да, его не стало, но он оставил после себя заметный след: и как замечательный конструктор, и как благородный, достойнейший во всех отношениях человек, для которого творчество было смыслом жизни, а может быть, и самой жизнью.

Он был надежным и благородным человеком. Со своей женой Любой он воспитал детей, внуков, справил золотую свадьбу. Виктор Николаевич прожил восемьдесят лет, даря ближним только любовь и добро. Горько, что он ушел из нашего мира, нам будет не хватать его доброты, ума и жизнелюбия. Соболезнуем детям, друзьям и близким этого замечательного человека.

**Г.П.Володченко,**
**Г.А.Зиновчик,**
**В.А.Кондратчик,**
**М.И.Парепко,**
**Т.И.Постоялко,**
**В.В.Радкевич,**
**В.М.Шлындиков.**

МАЗАІКА

## Латвійскі бар’ер

*Мужчынская зборная Беларусі па гандболе ў накаўт-раўндзе згуляе з камандай Латвіі.*



Права без адбору выступіць на чэмпіянаце свету-2017 ужо мае зборная Францыі (чэмпіён свету і краіна-арганізатар).

Права прамога пападання на турнір атрымалі таксама тры найлепшыя каманды чэмпіянату Еўропы-2016 – зборныя Германіі, Іспаніі і Харватыі.

Астатнія 12 удзельнікаў фінальнага раўнда ЧЕ-2016 аспрэчаць права згуляць на ЧС-2017 у кваліфікацыйным накаўт-раўндзе.

У выніку жараб’ёўкі стала вядома, што зборная Беларусі будзе сапернічаць з камандай Латвіі.

Матчы пройдуць 10–12 і 14–16 чэрвеня 2016 года.

## Паднялася

*Беларуская тэнісістка Вікторыя Азаранка ўзнялася на 14-е месца ў сусветным рэйтынгу.*

Учора быў абнародаваны новы рэйтынг найлепшых тэнісістак свету (WTA), куды ўключаны вынікі Адкрытага чэмпіянату Аўстраліі.

Вікторыя Азаранка ўзнялася на дзве прыступкі з 16-га на 14-е месца. Першае месца працягвае займаць Сэрэна Уільямс з 9245 баламі. На другое месца ўзнялася пераможца Ангеліка Кербер, у немкі – 5700 балаў.

Дарэчы, у мінулыя выхадныя менавіта Ангеліка Кербер перамагла ў фінале Адкрытага чэмпіянату Аўстраліі Серэну Уільямс. Сярод мужчын на гэтым турніры пераможцам шосты раз запар стаў сербскі тэнісіст Новак Джокавіч.

## БАТЭ купляе сербскага футбаліста за 1 мільён еўра?

*Паводле інфармацыі сербскіх СМІ, барысаўскі клуб збіраецца набыць паўабаронцу «Вайводзіны» Мірку Іваніча.*



22-гадовы футбаліст у гэтым сезоне правёў 20 матчаў у нацыянальным першынстве, забіў 8 мячоў.



УСМІХНІЦЕСЯ!

Калі мужчына застаецца адзін дома, яго халадзільнік набірае да 300 праглядаў за вечар.

***

Амерыканец у нядзелю адпачывае дома ад цяжкіх будняў. А рускі ў панядзелак адпачывае на працы ад цяжкіх выхадных.

***

Праца мае тры несумненныя плюсы: пятніца, зарплата і водпуск.

***

Ніхто так не змяніў гісторыю чалавецтва, як гісторыкі...

Адрас рэдакцыі:
220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: тэл./факс (017) 3286871.
Тэл. рэкламнага аддзела:
(017) 3286609
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info

9 772071 964000 16009

Падпісныя індэксы: 63222 – для індывідуальных падпісчыкаў, 632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.

Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ

У сувязі з адсутнасцю магчымасці рэдакцыя матэрыялы не рэцэнзуе і не вяртае, права ўступлення ў перапіску пакідае за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб’явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 1.02.2016 у 17.00. Аб’ём 4 друк. аркушы. Тыраж 25150 экз. Заказ № 514